DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (16) САКАВІК 2003 г.

# 25 САКАВІКА - ДЗЕНЬ АБВЯШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*Жыццё кароткае – Радзіма вечная ...*

*Дзень абвяшчэння
Беларускай Народнай Рэспублікі
поўніць нашыя сэрцы малітоўнай
пашанай да сапраўдных патрыётаў
Беларусі, што аддалі за яе свае жыцці.*

*Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларуссю, ціхой і ветлай,
рассып праменне Свае хвалы.*

*Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
ў нашу праўду, у прышласць – дай!*

*Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!*

*Наталля Арсеннева*

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА
25 САКАВІКА
1918 1995
БРАСЛАЎ

Памятная паштоўка на канцэрт у гарадскім доме культуры, прысвечаная чарговым угодкам БНР. 1995 г. Мастак Валеры Зінкевіч

**Якой бы доўгай і суровай не здавалася б зіма, за ёй абавязкова прыходзіць вясна – пара абуджэння прыроды. У сакавіку яшчэ могуць быць маразы, але яркае веснавое сонейка не пакідае для іх ніякіх шанцаў. Такі няўмольны закон прыроды. Падобна і ў грамадстве – безнадзейная пара бязвер'я, расчараванняў, апатыі саступяць часу вялікіх падзей і здзяйсненняў. Вось чаму 25 сакавіка асаблівае свята. Кожнага разу яно жывіць сэрца надзеяй і калі-небудзь яна спраўдзіцца. А пакуль ...**

# ВЕСТКІ

Некалькі гадоў у віртуальнай сеці (Internet) дзенічае сайт прысвечаны Браслаўшчыне, які стварыў і абслугоўвае жыхар Браслава Леанід Гашкоў. Яго адрас: http://braslaw.by.ru . Уводныя старонкі знаёмяць з Браслаўшчынай, утрымліваюць звесткі па арганізацыі адпачынку і турызма ў рэгіёне. Тут можна знайсці інфармацыю пра арганізацыі, якія могуць зацікавіць гасцей Браслава і раёна. Значная частка сайта прысвечана багатай гісторыі Браслаўшчыны, большасць якіх складзена па выданнях, падрыхтаваных музеем і краязнаўчым таварыствам. Ёсць інтэрактыўная карта Браслаўшчыны. Зараз актывізавалася праца па стварэнню новых раздзелаў: навіны рэгіёна, Браслаўскі фотаальбом (Браслаў на старых паштоўках і фотаздымках), браслаўцы ў тварах (кожны жадаючы жыхар Браслава зможа размясціць інфармацыю аб сабе – якая будзе цікавая іншым). На сайт Л.Гашкова штомесяц заходзіць каля 400 чалавек. Запісы наведвальнікаў сведчаць аб вялікай зацікаўленасці гістарычнымі звесткамі.



Даследчыца беларускага руху міжваеннага часу Алена Глагоўская з Гданьска паведамляе ў лісце на адрас Браслаўскага музея, што ў Польшчы адбудзецца некалькі імпрэз, прысвечаных памяці выдатнага беларускага мастака, нараджэнца Браслаўшчыны, Пётры Сергіевіча. 24 лютага ў музеі скульптара Альфонса Карны ў Беластоку адбудзецца адкрыццё выставы "Пётра Сергіевіч. 1900–1984. З прыватных збораў у Польшчы". 25 лютага гэтая ж выстава пачне працаваць у Гданьску. Выстава прымеркавана да 100-гадовага юбілею мастака і арганізавана беларускім культурным таварыствам "Хатка". Плануецца выданне каталога прац П.Сергіевіча, якія зберагаюцца ў Польшчы.



Спецыялісты па народнаму мастацтву Браслаўскага музейнага аб'яднання, майстры клуба "Ля возера", былі ўдзельнікамі выставы, прымеркаванай да дзён культуры Віцебскай вобласці ў сталіцы нашай краіны. Выстава працавала 14 лютага ў Палацы Рэспублікі. Асноўную частку ўдзельнікаў паседжання і справаздачнага канцэрта складалі дэлегацыі з Віцебскай вобласці.

*Мікола Дварэцкі*

## НА СХОД

Ідзі на сход дужы ды слабы
І не лянуйся паспяшы,
Ваюй за праўду сваю, дружа,
Сабраўшы крыўду ўсёй душы.

Устань і ты, дзядулька, з печы
Мазольных рук стары ўладар.
Ідзі паслухаць добрай рэчы,
Якую правіць гаспадар.

Ён гутарыць у роднай мове,
З якой радзіўся й жыў твой дзед,
А тых чужых ды модных словаў
Загіне хуценька ў нас след.

Ідзі пад сцяг наш "Вызваленне",
Які ратуе ад бяды,
І робіць вольным пакаленне
Сяброў сялянскай грамады!

* Мікола Дварэцкі, беларускі дзеяч з Браслаўшчыны. Верш напісаны ў 1921 г. у Іказні, друкаваўся у газеце «Вызваленне народу».

*Ларыса Геніюш*

Не пазнаю цябе, мой Краю,
Нявечыць людзкасьць лад чужы,
І прадзедаў зямля чужая,
І толькі нашыя крыжы.
І толькі нашыя магілы,
Старыя ў полі курганы –
Няўжо й мінуласьць нашу скрылі
Пад тоўстым насыпам яны?
Чужым нам ў сэрцы цэляць словам,
Каб насьмерць роднае забіць,
Лучынай гасьне наша мова,
Чужая – лагерам гучыць.
Ад сухавеяў, што з усходу,
Плытчэе Нёман ў берагах,
Душа малее у народу,
Мрэ песьня, як падбіты птах.
У нявол крыльляў не разгорне
Ні птах, ні песьня, ні душа.
Нат белы дзень здаецца чорным,
Хоць быў жа сонечны сьлярша.
Чужы палон, прыгон адвечны
Махлярствам душы гне і злом,
Ніжэй ўсё нам згінаюць плечы
Нейкім нябачным бізуном.
Стаяць над намі ўсе чужыя
Ды сьцёбаюць да працы нас,
Як быццам страшнага Батыя
Вярнуўся незабыты час...




Браслаўскія графіці. 2003 год

*Натальля Арсеньнева*

## 25 САКАВІК

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён ня прысьці ня можа!
Ён прыйдзе
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, разьмяце,
раскідае, зьнічтожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім
шасьціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны
Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас і крылы апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай,
трывайма!
Ён ідзе
Вялікі Сакавік!
Ідзе ...
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
сьнягі, на паплавох зяленіцца трава ...
Радзіма!
Беларусь!
Каханая, сьвятая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

# ВЕСТКІ

Мінскі мастак Уладзімір Кандрусевіч закончыў працу над партрэтам выдатнага браслаўскага гісторыка Отана Гедэмана (1887-1937 гг.), аўтара шэрага манаграфій, прысвечаных мінуламу Браслаўшчыны, а таксама суседніх рэгіёнаў: Мёршчыны, Шаркаўшчыны, Глыбоччыны. Імя О.Гедэмана носіць Браслаўскае краязнаўчае таварыства. Партрэт О.Гедэмана



– трэці з серыі "Славутыя людзі Браслаўшчыны" пасля партрэтаў С.Нарбута і Б.Выслоўха. Усе тры працы У.Кандрусевіча ўпершыню былі выстаўлены на выставе "Люстэрка", якая праходзіць ў Мінскім Чырвоным касцёле. Удзел у выставе бяруць яшчэ пяць сталічных мастакоў. Урачыстае адкрыццё адбылося 27 лютага.



У памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея пачала працаваць выстава календароў і гадзіннікаў "Вартавыя часу". Прадстаўлены найбольш цікавыя экспанаты музейнай калекцыі гадзіннікаў: насценных (Le Roi, Gustaw Becker, Unghans), настольных, кішэнных – вытворчасці першай паловы XX ст., а таксама розныя календары ад пачатку XX ст. да 50-х гадоў гэтага ж стагоддзя.



Падведзены вынікі другога тура раённай краязнаўчай віктарыны, пытанні якога цалкам прысвячаліся археалагічным помнікам Браслаўшчыны. Тур засведчыў даволі вялікую актыўнасць школьнікаў і нядрэнныя веды аб археалагічнай спадчыне рэгіёна.

*Яна Капуста*

Я нясу ў рукох паламаны
ліхтар.
Я нясу ў рукох паламаных
надзею.
Я нясу й я ведаю ўсё,
што мне скажуць на гэтае
людзі і зданi.
Я ад ранку згадаю,
што трэба ісьці,
хаця ўбачу ня тое,
чым ёсьць навакольле, –
я ня буду ўсьміхацца
бязродным вагням,
бо...
мне проста Радзіма мая
не дазволіць.

* Яна Капуста, студэнтка філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, родам з в.Гірэйшы

Старадаўняй
Літоўскай
Пагоні
не разьбіць,
не
спыніць,
не
стрымаць!!!




Пячатка БНР

Максім Багдановіч

# ВЕКАПОМНАЕ



*Увазе чытача прапануем фрагмент успамінаў выдатнага беларускага дзеяча, гісторыка Вінцэнта Жук-Грышкевіча (1903-1989 гг.), які ў 1970-1982 гадах выконваў абавязкі старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі. В.Жук-Грышкевіч нарадзіўся ў мястэчку Будслаў Вілейскага павета. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальным руху ў перыяд Заходняй Беларусі, змагаўся з гітлераўцамі ў складзе Польскай арміі генерала Андэрса. Пасля вайны жыў і працаваў у Італіі, Германіі, Англіі, Канадзе, быў адным з відных беларускіх дзеячаў на эміграцыі. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (ЗША). У 20-я гады В.Жук-Грышкевіч наведваў Браслаўшчыну. Фрагмент яго ўспамінаў тычыцца Віктара Шутовіча, які быў ксяндзом у Барадзінічах і шмат зрабіў дзеля беларускай справы (пра В.Шутовіча глядзі ў кнізе "Памяць" с.274.).*

....Лічу за вялікі гонар, што меў шчасьце спаткацца з гэтым вялікім сьвятаром, хоць два разы толькі. Было гэта ў 1922 годзе восеньню. Тады адбываліся першыя выбары ў польскі сойм. Тады была яшчэ такая-сякая свабода. Беларусы йшлі на выбары ў гэтак званым блёку нацыянальных меншасьцяў Польшчы пад нумарам 16. На маю долю выпала быць выбарчым інструктарам на Браслаўскі й Дзісьненьскі паветы ад Беларускага Выбарчага Камітэту ў Вільні. Я езьдзіў па мястэчках і вёсках Браслаўскага павету, зьбіраў сходы сялян і арганізаваў мясцовыя выбарчыя камітэты. Трапіў і ў Барадзенічы. Даведаўся,што тут быў ксёндз-беларус, зайшоў да яго. Ксяндза Віктара Шутовіча ня было дома. Я пагаварыў толькі зь ягонай сястрой, ад якой даведаўся, што ў нядзелю будзе фэст у адной з капліцаў Барадзеніцкай парафіі, на які зьбярэцца шмат народу. Я пастанавіў скарыстаць з гэтай нагоды. Тады ў памешканьні ксяндза Шутовіча мне кінулася ў вочы вельмі-ж скромная абстаноўка.

У нядзелю я прыехаў у капліцу й пасьля багаслужбы зрабіў мітынг. Было шмат сялян і яны слухалі мяне ўважна. Сярод сялянскай масы я заўважыў і ксяндза Шутовіча. Ён быў да канца сходу, і пры абмене думак і ў часе выбараў мясцовага выбарчага камітэту. Голасу ён не забіраў. Сход прайшоў гладка. Ніякай апазыцыі ня было. Пасьля сходу я падыйшоў да ксяндза Шутовіча й пазнаёміўся зь ім. Ён запрасіў мяне на гарбату. Вельмі цешыўся з беларускага выбарчага руху й запэўніваў мяне, што ў Браслаўскім павеце ліста нумар 16 атрымае шмат галасоў, бо тут многа сьвядомых беларусаў. Распытваўся пра мяне і Віленскую Беларускую Гімназію, якую я нядаўна скончыў. Радзіў мне дабівацца на ўнівэрсытэт, бо ў нас мала інтэлігэнцыі, казаў ён.

# ВЕСТКІ

Ужо некалькі гадоў Браслаўскае музейнае аб'яднанне прадстаўляе не зусім традыцыйны для музеяў від паслуг - карыстанне бібліятэкай. Кніжны збор музея, які стаў фарміравацца з 1986 г., даволі вялікі - ён налічвае каля 6 тысяч тамоў. Найбольш каштоўная яго частка (звыш тысячы асобнікаў) зберагаецца ў фондасховішчы. Гэта выданні XIX – пач.XX стст., а таксама найбольш каштоўныя працы па гісторыі Браслаўшчыны. Каля 150 выданняў маюць аўтографы аўтараў, у прыватнасці такіх вядомых дзеячаў культуры Беларусі як Васіль Быкаў, Міхась Ткачоў, Генадзь Каханоўскі, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Пётра Сергіевіч.

Асноўная частка бібліятэкі размешчана ў будынку гістарычна-краязнаўчага музея. Найбольшую навуковую вартасць мае калекцыя кніг па гісторыі і краязнаўству Браслаўшчыны. Калекцыя ўключае не толькі арыгіналы, але і копіі. Музей валодае самым поўным у Беларусі зборам прац выдатнага даследчыка О.Гедэмана, аўтара 7 манаграфій па гісторыі Браслаўшчыны і сумежных рэгіёнаў.

Бібліятэкай музея даволі актыўна карыстаюцца вучні старэйшых класаў, настаўнікі, студэнты, даследчыкі, краязнаўцы. Па дамове навуковыя супрацоўнікі могуць зрабіць падборку публікацый і кніг па пэўнай тэме, скласці бібліяграфію.



14 сакавіка ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры адбылося адкрыццё выставы "Вясна, жанчыны, кветкі". На ёй прадстаўлены жывапіс, бацік, букеты і калекцыі з сухіх кветак, аўтары якіх – мастакі з Пастаў Таццяна Петух і Вольга Гукава. Т. Петух – дырэктар Пастаўскага дома рамёстваў, выпускніца мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педуніверсітэта. В.Гукава закончыла мастацкую вучэльню ў Віцебску і працуе там жа керамістам. На адкрыцці выставы аб сваёй працы і захапленнях прамаўлялі самі аўтары выставы. Т.Петух прадэманстравала роспіс па шоўку. Падчас імпрэзы гучалі вершы, прысвечаныя вясне, каханню, жанчынам, а таксама музыка ў выкананні ансамбля народных інструментаў Цэнтра дзіцячай творчасці г.Браслава пад кіраўніцтвам У.Сакалоўскага.



Ксёндз Шутовіч быў вельмі простым і непасрэдным у дачыненьнях з людзьмі. Ён дбаў пра сваіх вернікаў, і тыя любілі яго. З усімі справамі яны зьвярталіся да яго, і ён ім дапамагаў, як родны бацька. Таму шнур людзей у ягоным памешканьні, здавалася, ніколі не перарываўся. І тады, ў часе нашай гутаркі чакала некалькі наведвальнікаў.

Другі раз я спаткаўся з ксяндзом Шутовічам на фэсьце ў Новым Пагосьце пасьля мітынгу. Там я меў даволі моцную перапалку з "вызваленцамі". Польская радыкальная партыя "Вызваленьне" падшывалася пад патрэбы беларусаў, нават іх агітатары прамаўлялі па-беларуску ды пашыралі сваю літаратуру ў беларускай мове. Мне было цяжка змагацца зь імі, але дапамаглі мясцовыя сьведамыя беларусы (асабліва адзін студэнт-мэдык, прозьвішча яго не магу прыпомніць) і я перамог. Мы выбралі мясцовы выбарчы камітэт, а "вызваленцы" паехалі зь нічым. Пасьля мітынгу я пайшоў да тутэйшага ксяндза. Пробашчам у Новым Пагосьце быў беларус (прозьвішча ня памятаю), ён прыняў мяне прыхільна. Неспадзявана я натрапіў на вялікую групу ксяндзоў-беларусаў, якія прыехалі на фэст. У сталовай, дзе яны сядзелі, я ня чуў іншай гутаркі, як толькі беларускую. Яны ведалі ўжо пра вынікі мітынгу й зацікавіліся мной. Абступілі мяне й распытваліся пра падрабязнасьці мітынгу. Быў тут і ксёндз Шутовіч. Мы сустрэліся зь ім як знаёмыя й ён мне даў якісь даручэньні для сваёй сястры ці пляменьніцы ў Вільні,што была загадчыцай беларускага прытулку для дзяцей пры Беларускай Гімназіі. У гутарцы са мной ён наракаў на польскіх асаднікаў, якія былі вельмі агрэсыўныя да ўсяго беларускага й шмат прыкрасьцяў рабілі нашым сялянам, а нават ксяндзом-беларусам. Ён раіў мне высьцярагацца іх, бо могуць пабіць, пакалечыць і расправы на іх ня знойдзеш, казаў ён. На разьвітаньне раіў мне, каб я – малады й без дасьведчаньня – пры ўсёй маёй дзейнасьці, асабліва-ж палітычнай, не перасіаваў быць хрысьціянінам...

Друкуецца па: Р.Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта. 1993. С.39-41

# ВЫДАННЕ БРАСЛАЎСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ КАМЕНДАТУРЫ. 1920 ГОД

Ураду Беларускай народнай рэспублікі давялося дзейнічаць у надзвычай складаных варунках, калі тэрыторыя Беларусі стала арэнай барацьбы паміж вайсковымі фармаваннямі Расіі, Польшчы, Германіі, Літвы. Беларускім лідэрам не ўдалося стварыць самастойнага войска, таму даводзілася шукаць саюзнікаў. Напрыклад,па дамоўленасці паміж урадам БНР і Літвой у складзе ўзброеных сіл гэтай краіны быў створаны Беларускі батальён як падраздзяленне другой пяхотнай дывізіі. Пасля некаторага пагаршэння беларуска-літоўскіх адносінаў батальён быў рэфармаваны ў Беларускую асобную роту пры 9-м пяхотным палку. У жніўні 1920 г. рота накіроўваецца на Браслаўшчыну для прыкрыцця дзяржаўнай мяжы (Тэрыторыя Браслаўшчыны ў гэты час адышла да Літвы).

Камандзірам беларускага падраздзялення ад часу яго заснавання быў маёр Аляксандр Ружанцоў (1893-1966), пазней відны беларускі дзеяч на эміграцыі, гісторык, бібліёграф. Ён нарадзіўся ў Вязьме Смаленскай губерні на этнічна беларускіх землях, удзельнічаў у першай сусветнай і грамадзянскай войнах. Пасля вайны у 1921-1924 гадах з'яўляўся консулам БНР ў Коўне (Каўнасе).

Беларуская рота ў жніўні 1920 г. займала мястэчка Браслаў і шэраг навакольных вёсак. А.Ружанцоў быў начальнікам гарнізона і знаходзіўся ў Браславе. Мясцовыя жыхары напэўна



Маёр А.Ружанцоў

неаднойчы чулі ў выкананні беларускіх жаўнераў ротную песню аўтарам слоў да якой быў маёр Ружанцоў:

Марш,марш,жаўнеры.
Марш да Беларусі,
Бо наш мілы край радзімы
Быць свабодным мусіць...

А.Ружанцову належаць успаміны, фрагмент якіх звязаны з Браслаўшчынай, друкаваўся ў кнізе "Памяць" (с. 246-47). Арыгінал успамінаў зберагаецца ў аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Тут жа былі выяўлены асобнікі выдання Браслаўскай камендатуры (F.21, спр.2285). Коратка аб гэтай знаходцы пісалася ў першым нумары "Павета".

Ю.Пілсудскага, паразе арміі Будзённага пад Львовам, прапанове саюзнікаў польскаму ўраду абмежавацца пры стварэнні дзяржавы толькі этнаграфічнымі межамі і г.д. Прыводзіўся курс тагачаснай літоўскай грашовай адзінкі – аўксіна на біржах Еўропы і Нью-Йорку. У раздзеле "Местная хроника" змяшчалася абвестка аб прызначаным на чацвер 8 верасня арганізацыйным сходзе Браслаўскай пажарнай дружыны з просьбай з"явіцца на ім прадстаўнікам мясцовага самакіравання, а таксама былых сяброў дружыны. На беларускай мове напісана караценькая інфармацыя аб тым, што газету "Пагоня" (№4-6) можна набыць у пакоі №3 камендатуры.

Нарэшце, у трэцім нумары мясцовыя паведамленні займаюць ужо палову зместу. У павятовым цэнтры Эжэрэнах (былым Новааляксандраўску, сучасным Зарасаі)


Браславская стенная газета
Браславская стенная газет.
Издание Браславской Белорусской Комендатуры.
Официальное сообщение Литовского Генерального Штаба.
Телеграммы "Эльта"
Браславская стенная газета.
№3

адбыўся павятовы сойм і настаўніцкі з'езд, на якіх прысутнічалі прадстаўнікі і Браслаўскай воласці. 8 верасняі арганізавана Браслаўская пажарная дружына. У праўленне былі абраны маёр Ружанцоў, начальнік міліцыі Міштаўт, прадстаўнікі яўрэйскай грамады: Ш.Рабіновіч, Б.Хормац, С.Гелішкоўскі ды іншыя (Адзначым, што заснавальнік дружыны і кіраўнік праўлення Станіслаў Нарбут у гэты час знаходзіўся ў эвакуацыі). Ганаровымі чальцамі дружыны сход абраў міністра літоўскага ураду па яўрэйскіх справах М.Салавейчыка і міністра па беларускіх справах Д.Сямашку. Планавалася ў бліжэйшы час прыступіць да рамонту інвентару і трэніровак. Паведмлялася аб прыбыцці ў Браслаў начальніка мясцовага ўчастку міліцыі Міштаўта. Уздымалася пытанне аб заснаванні ў бліжэйшы час "дню барацьбы з брудам". Жыхар Браслава Гелішкоўскі ад імя культурна-драматычнага таварыства выказваў падзяку кіраўніцтву Браслаўскага гарнізона за падараваны раяль. Па-беларуску пісалася аб размеркаванні газеты "Пагоня" – Браслаўская, Дрысьвяцкая, Плюская воласці атрымлівалі па 20 асобнікаў выдання, Браслаўскі кааператыў – 25, жаўнеры гарнізона – 50 асобнікаў. Рэшту свабодна можна было набыць у камендатуры.

Вось і усё. Як бачна нават падрабязны разгляд усіх трох нумароў не заняў шмат месца. Да ліку салідных сродкаў масавай інфармацыі Браслаўскае выданне не аднясеш. Тым не менш яно застанецца цікавым сведкам складанага і драматычнага перыяду ў гісторыі Браслаўшчыны.

У Вільні зберагаюцца тры нумары выдання (№ 1-3). Магчыма, што болей і не існавала. Выданне, якое называлася "Браславская стенная газета", выходзіла пераважна на рускай мове. Яно пісалася ад рукі на невялічкіх аркушах паперы. Выдаўцом пазначана беларуская камендатура, якая ў першым нумары так вызначыла сваю мэту: "*В наш Браслав редко попадают газеты. Идя навстречу местному населению и, желая положить предел всяким слухам и сплетням, мы будем издавать свою газету, надеясь на помощь и сотрудничество местных общественных организаций и деятелей*". Праўда тут жа мы даведываемся, што ў валасным праўленні і камендатуры можна набыць сапраўдныя газеты: беларускую "Пагоню" і літоўскую "Lietuva". Амаль увесь першы нумар займаюць перадрукоўкі навінаў з фронту. Паведамлялася аб баях літоўскіх і польскіх часцей у раёне Аўгустова, літоўска-латышскіх памежных непаразуменнях, аб поспехах расійскіх войскаў у раёне Брэста і г.д. Мясцовым паведамленням адведзена няшмат месца. Пад загалоўкам "Браславская жизнь" пішацца аб перадачы мясцоваму яўрэйскаму культурна-драматычнаму таварыству раялю, які да таго быў рэквізіраваны расійкімі войскамі ў нейкім маёнтку, насельніцтва інфармуецца аб пастанове ўладаў абавязкова лячыць часотачных коней.

У другім нумары таксама пераважае афіцыйная інфармацыя. Літоўскія войскі, паводле паведамленняў генштаба, дабіліся поспехаў на ўчастку Гродна-Сувалкі. Тэлеграфнае агенцтва "Эльта" паведамляла аб аднаўленні расійска-польскіх мірных перамоваў у Рызе, выступленнях у гарадах Польшчы супраць знешняй і ўнутранай палітыкі

Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея

*Да 150 гадовага юбілею С.Нарбута*

# С.Нарбут. Абставіны смерці і пахавання

У кнізе запісаў смярцей Браслаўскага касцёла Нараджэння Маці Божай ёсць наступны запіс: "*Нарбут Остык Станіслаў, сын Тэадора і Крысціны. Памёр 11 сакавіка 1926 г. у г.Браславе ад запалення лёгкіх ва ўзросце 73-х гадоў... Пахаваны 15 сакавіка 1926 года на Замкавай гары з ксяндзом Юзафам Савіцкім*".

Пачатак сакавіка – самая мяжа, калі зіма пачынае здаваць свае паўнамоцтвы вясне. У гэтую пару аслаблены арганізм вельмі лёгка паддаецца хваробам. Паводле самай распаўсюджанай версіі, Станіслаў Нарбут выехаў па выкліку да хворага і падчас язды на вазку моцна прастудзіўся. Часта згадваецца такая акалічнасць, што на яміне ці на рэзкім павароце доктар выпаў з вазка і прамок. Здарылася гэта нібыта па дарозе да хворага, але Нарбут дабраўся спачатку да пацыента і толькі потым паклапаціўся аб сабе. Такі ўчынак, калі ён меў месца, адпавядаў характару Станіслава Нарбута. Лекар хварэў некалькі дзён. Аб хваробе паведамілі дачцэ Марыі, якая жыла ў Варшаве. Яе муж – доктар Ян Баўэр, тэрмінова выехаў у Браслаў з лекамі, але даехаць не паспеў. 11-га сакавіка сэрца Станіслава Нарбута перастала біцца.

Ён быў чалавекам ужо сталага веку, але востры боль ад страты апанаваў сэрцы блізкіх, сяброў, знаёмых, усяго мясцовага люду. Да кватэры Нарбутаў пацягнуўся натоўп жыхароў мястэчка і павета. Жалоба была шчырая і вострая. У віленскіх газетах сталі з'яўляцца жалобныя абвесткі, а "Dziennik Wileński" і "Słowo" надрукавалі некралогі, напісаныя Зеліславам Янушкевічам, старостам браслаўскім, Вацлавам Шадурскім, старостам у пачатку 20-х гадоў. В. Шадурскі назваў С.Нарбута "Нестарам зямлі Браслаўскай", ён адзначаў: "*...здаецца неверагодным, што Браслаў мог бы існаваць без Нарбута...*" і падкрэсліваў, што "*...доктар быў знітаваны з браслаўскай зямлёй і мясцовым людам не толькі доўгім сумесным жыццём, але і вялікай узаемнай любоўю...*" З.Янушкевіч пісаў, што С.Нарбут належыў да ліку людзей, пра якіх кажуць: "*...такіх больш не будзе...*"



У час жалобы кватэру С.Нарбута наведала прадстаўнічая дэлегацыя яўрэйскага насельніцтва Браслава. Яўрэі звярнуліся да ўдавы з просьбай перанесці нябожчыка ў сінагогу і там адправіць жалобныя малітвы. Па рэлігійных матывах згоду на такое дзейства дэлегацыя не атрымала. Пасля пахавання ў браслаўскай бажніцы прагучалі памінальныя малітвы па нябожчыку. Гэты факт з'яўляецца сведчаннем велізарнага аўтарытэта С.Нарбута сярод усіх жыхароў Браслаўшчыны. Трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што ў сінагогах яўрэі адпяваюць толькі самых заслужаных адзінаверцаў. Доктар жа Нарбут увогуле быў прадстаўніком іншай канфесіі.

Пахавалі С.Нарбута на Замкавай Гары, на грэбені высокага абарончага вала ў заходняй частцы старажытнага гарадзішча. Па некаторых звестках гэтае месца абралі жыхары Браслава, бо тут часта бачылі лекара ў часы адпачынку. Паводле іншай версіі сам С.Нарбут папрасіў пахаваць сябе на гарадзішчы, побач з вялізным крыжом Незалежнасці. Драўляны з сукаватага дуба крыж некалькімі гадамі раней быў устаноўлены па ініцыятыве лекара ў гонар прагрэсіўнай Канстытуцыі 3 мая 1791 года і аднаўлення незалежнасці Польшчы. С.Нарбут, ксёндз Ю.Савіцкі з аднадумцамі ўсцягнулі крыж на Замкавую Гару як на Галгофу. Пануючы над мястэчкам крыж павінен быў нагадваць цярністы шлях Айчыны да Волі, да Незалежнасці. Кавалачак зямлі на гарадзішчы прадаў, ці па іншых звестках падараваў, яго ўладальнік Томаш (Фама) Жарык. Праводзіць лекара ў апошні шлях прыйшла велізарная колькасць жыхароў Браслава і ўсіх гмінаў Браслаўскага павета.

Пасля пахавання ўлады і грамадскасць Браслава вырашылі паставіць на магіле С.Нарбута помнік, які быў бы дастойны памяці народнага лекара. Неўзабаве пачаўся збор ахвяраванняў. Грошы паступалі вельмі хутка. За кароткі тэрмін сабралі суму, якой аказалася больш чым дастаткова на помнік. Тады частку сродкаў накіравалі на ўзвядзенне дома для сям'і С.Нарбута.

Помнік лекару адразу быў задуманы як высокі абеліск, завершаны ліхтаром. Святло ліхтара павінна было падказваць рыбакам і падарожнікам кірунак на Браслаў. Аўтар праекта помніка пакуль невядомы. У кастрычніку 1928 г. журналіст віленскай газеты "Słowo" падчас наведвання сойміка ўбачыў макет помніка і адзначыў, што "*...ён павінен быць узведзены на Замкавай Гары на магіле вельмі паважанага мясцовага грамадскага дзеяча доктара Станіслава Осцік Нарбута. Помнік уяўляе сабой высокую калону, якую завяршае электрычны ліхтар. Сярод туманаў і снежных завірух гэты ліхтар будзе ўказваць шлях ідучым па снежных раўнінах велізарных Браслаўскіх азёраў...*"

Праект быў рэалізаваны ў канцы 20-х – пачатку 30-х гадоў. Над Браславам узнёсся высокі белы абеліск, на вяршыні якога заззяла 1000-ватная лямпа. Выключацель ад ліхтара знаходзіўся ў аддзяленні паліцыі і дзяжурны паліцэйскі павінен быў уключаць яго, калі надыходзіла цемра ці псавалася надвор'е. Гарадзішча і бліжэйшае наваколле Браслава ў той час было бязлесым, таму святло ліхтара маглі назіраць здалёку.



Абеліск стаяў на магутным кубе, які ўпрыгожвала памятная дошка: "Памяці Станіслава Осцік Нарбута, тут спачываючага. Жыхары Браслаўскага павета. 1853 – 1926." Бетонная пляцоўка вакол куба была абнесена масіўным ланцугом на слупках. Побач з помнікам захоўваўся крыж.

Адразу пасля ўзвядзення помнік С.Нарбуту стаў адной са славутасцяў мястэчка, адным з яго сімвалаў. Гэтае месца ахвотна наведвалі госці Браслава. Мала каго пакідала абыякавай такая кранальная пашана да памяці таленавітага лекара. У 30-я гады Замкавая гара была выкуплена ўладамі з прыватных рук, набыла статус гістарычнага помніка і ператварылася ў адзін з грамадскіх цэнтраў горада. Часам Замкавую гару называлі "Гарой Нарбута", аб гэтым, прынамсі, сведчаць наступныя радкі, напісаныя адным з наведвальнікаў Браслава: " *... Пасля таго як я прыехаў у Браслаў рушыў да возера. Па дарозе праходзіў каля вялікай гары ў цэнтры горада. Гэта гара Нарбута, названая так у гонар доктара Нарбута, які працаваў у Браславе 60 гадоў і памёр некалькі гадоў таму*". (Газета "Słowo". 11 ліпеня 1932 г.).

Драматычным быў лёс помніка С.Нарбуту ў 40 – 80-я гады. З надыходам савецкай улады быў знішчаны крыж, разбіта памятная дошка, разабрана агароджа вакол куба-пастамента. На шчасце не пацярпеў помнік у час баявых дзеянняў перыяду другой сусветнай вайны. Не рашыліся ўлады і знесці абеліск. Імкнуліся толькі, каб

забыліся на таго, хто знайшоў свой апошні прытулак на такім ганаровым месцы. Пускалі чуткі, што лекар быў дваранінам, а значыць прыгнятальнікам, што пацяшаўся ён з сялян, прымушаючы на сабе вазіць у вазку і г. д. Напярэдадні святкавання 900-годдзя Браслава, якое прыпадала на 1965 г., вырашылі скарыстаць помнік С.Нарбуту пад помнік у гонар заснавання горада. Замест ліхтара вяршыню абеліска "упрыгожыла" пачварная постаць старажытнага воіна, зробленая з бляхі. Надпіс на новай шыльдзе, прымацаванай да куба-пастамента, абвяшчаў на мове акупантаў: "Здесь на Замковой горе в IX веке был основан город Браслав. Впервые в летописи упоминается в 1065 году". Побач з помнікам узвялі танцавальную пляцоўку.

Да гонару жыхароў Браслава і пачварны воін, і шыльдачка не доўга аздаблялі помнік. Аднойчы іх знайшлі ў возеры моцна пашкоджанымі. У 80-я гады ўлады падрыхтавалі для помніка больш грунтоўную дошку, адлітую з сілуміну. Прымацаваць дошку не паспелі. Напрыканцы 80-х гадоў краіна ўступіла ў перыяд дэмакратызацыі. Менавіта ў гэты час актыўнай частцы грамадскасці Браслава ўдалося пераканаць улады аднавіць справядлівасць у адносінах да помніка на магіле С.Нарбута. Каардынатарам пэўных захадаў у гэтым кірунку стаў музей, які ў той час знаходзіўся ў стадыі станаўлення. Супрацоўнікі музея збіралі сведчанні людзей пра Нарбута, ініцыравалі ў мясцовым друку публікацыі даследчыкаў, якія зацікавіліся постаццю браслаўскага лекара. Вялізную ролю адыгралі артыкулы Андрэя Майсёнка (Гродна) і Валянціна Грыцкевіча (Санкт-Пецярбург). У 1989 г. мясцовае кіраўніцтва дазволіла аднавіць помнік. Адразу ж у музеі была падрыхтавана часовая драўляная дошка з надпісам: "Нарбут С.Т. 1853 – 1926. Таленавітаму ўрачу-гуманісту ад удзячных жыхароў Браслаўшчыны". У 1990 г. пры падрыхтоўцы да святкавання 925-годдзя Браслава помнік быў адрамантаваны, пафарбаваны. Вакол пастамента з'явілася агароджа з ланцуга. Мінскі скульптар Алесь Дранец зрабіў бронзавую памятную дошку з тэкстам на беларускай мове лацінкай: "Stanisłaū Ościk Narbutt. 1853–1926. Lekaru udziačznaja Brasłauščyna". Дошку ўпрыгожыла выява нацыянальнага сімвала, старажытнага герба Вялікага княства Літоўскага "Пагоня", якая сімвалізуе заслугі роду Нарбутаў перад Айчынай. Расходы на выраб дошкі ўзялі на сябе гарадскія ўлады, частку грошай сабралі сярод жыхароў Браслаўшчыны.

Помнік зноў стаў адной з адметнасцей Браслава, адным з яго сімвалаў. Праўда, існуе шмат праблемаў, звязаных з яго утрыманнем. На вялікі жаль, ужо некалькі гадоў не працуе ліхтар. Белая фарба вельмі хутка псуецца пад уздзеяннем атмасфернай вільгаці. На паверхні помніка з'яўляецца шмат надпісаў і малюнкаў. Вельмі часта вандалы перакульваюць слупкі агароджы з ланцугом. Час ад часу помнік удаецца паднавіць, але, на жаль, улады не разумеюць унікальнасці гэтага помніка і не праяўляюць належнага клопату аб ім. Верыцца, што будзе час, калі гэтая абыякавасць будзе пераадолена, знойдуцца магчымасці, каб утрымліваць помнік заўсёды ў выдатным стане. Верыцца, што настане час, калі на вяршыні абеліска зноў клапатлівая рука будзе запальваць ліхтар. Што зноў над Браславам заззяе агеньчык, які будзе ўсім нагадваць пра неардынарнага чалавека – браслаўскага лекара Станіслава Нарбута. Некалі вельмі трапна назвалі гэты агеньчык сімвалам самаахвярнай працы лекара дзеля людзей. Сапраўды, успомнім словы пра паходню Гіпакрата: "Свецячы іншым, згараю сам".

Помнік на Замкавай Гары без сумнення дастойны памяці лекара С.Нарбута, але вельмі важна, каб і мы былі дастойны гэтага сімвала.

Друкуецца па: Браслаўскія сшыткі. Т. 4. Браслаў. 2000. С. 69-70

*Артыкулы*



# КОРЧМЫ, ЗАЕЗНЫЯ ДВАРЫ, ШЫНКІ...

**У сакавіку 2003 года пры Музеі традыцыйнай культуры эманціравана большая частка экспазіцыі "Заезны двор". Экспазіцыя размясцілася ў будынку гасцініцы, які прымыкае да асноўнага корпуса музея. Заезны двор – гэта тып карчмы, які прадстаўляў падарожным не толькі харчаванне, але і начлег. У карчме з заездам можна было ўладкаваць і каня, і возок ці фурманку. Корчмы з заездамі – гэта прататыпы сучаных гасцініц. Вельмі часта заезды існавалі пры млыных. У іх прыпыняліся кліенты млынара, якім у гарачую пару даводзілася чакаць сваёй чаргі працяглы час. Акурат пры Браслаўскім млыне існаваў заезд. Нават захаваўся яго будынак – аднапавярховая выцягнутая ў даўжыню мураваная хаціна, у якой зараз жыве некалькі сем'яў.**

**Экспазіцыя "Заезны двор" змяшчае матэрыялы, звязаныя з корчмамі Браслаўшчыны, фотаматэрыялы, якія даюць уяўленне аб выглядзе мястэчак і дарог Браслаўшчыны ў XIX – пачатку XX стст. Ёсць інсталяцыя, якая складзена з прыгожага вазка канца XIX – пачатку XX стст. і элементаў конскай вупражы.**

**Афармленню экспазіцыі папярэднічала вялікая доследная праца. Перапрацавана вялізная колькасць архіўных матэрыялаў, літаратурных крыніц. Сабраны матэрыял дае ўяўленне аб бытаванні корчмаў у рэгіёне.**

**Прапануемы ўвазе чытача нарыс грунтуецца менавіта на гэтым матэрыяле.**

* * *

Слова "карчма" выклікае асацыяцыю з нечым даўнім-даўнім. Сапраўды, гісторыя корчмаў налічвае больш за тысячу гадоў. Паводле меркаванняў даследчыкаў, у Беларусі корчмы з'явіліся ў X-XI стст. і былі даволі распаўсюджаны ў гарадскіх паселішчах. Іх бытаванне звязваюць са здабычай мёду і вырабам мядовых напояў. На Браслаўшчыне ў XI – XIII стст. існавала некалькі гарадскіх паселішчаў – на гарадзі-

шчах Замкавая Гара ў Браславе, Маскавічы, Дрысвяты. Не выключана, што ў іх ужо былі корчмы.

Найбольшая колькасць корчмаў была ў перыяд Вялікага княства Літоўскага. У пэўныя часы яны адыгрывалі значную ролю ў эканоміцы. Палажэнні аб утрыманні, арэндзе корчмаў утрымлівалі важнейшыя заканадаўчыя зводы дзяржавы.

На Браслаўшчыне па дакументальных крыніцах корчмы вядомы з XV ст. У 1498 г. уладальнік часткі Відзаўскага маёнтка біскуп В.Табар адпісаў парафіяльнаму касцёлу па дзве капы грошай штогадова ад местачковых корчмаў. На жаль, невядома, колькі было тых корчмаў.

У 1499 г. Іван Сапега, сакратар княгіні Алены, атрымлівае ад яе мужа - вялікага князя літоўскага - Аляксандра Ягелончыка прывілей на дом і карчму ў Браславе. Паводле прывілею, Сапезе дазваляецца ў местачковым доме "*корчму мети пиво и мёд, и тот плат корчомный, всю капщизну пивную и медовую, даёт церкви Божои Светому Духу на Иказне вечно, непорушно...*" Сапега меў права прадаваць у карчме піва і мядовыя напоі, а асобую плату за карчму накіроўваць на карысць храма ў Іказні.

Корчмы вельмі часта фігуруюць у розных наданнях касцёлам, цэрквам. Яны забяспечвалі нядрэнны прыбытак. У кастрычніку 1500 года, падчас знаходжання ў Браславе, Аляксандр Ягелончык падпісаў фундуш мясцоваму касцёлу. Тэкст гэтай граматы захаваўся. З яго вынікае, што яшчэ ў пачатку XV ст. пры заснаванні храма фундуш, які ўхваліў Вітаўт Вялікі, адпісваў касцёлу даход ад адной карчмы. Аляксандр пацвердзіў дадзенае наданне і дадаў ад сябе "*з особливое... ласки, хотями в тое, вышей писаной, церкви хвалу Божою розмножоти*" дзве капы грошай з другой карчмы, якая належыла мешчаніну Мацко. Пасля смерці Аляксандра, наступны вялікі князь Жыгімонт Стары ў 1514 г. дадаў да папярэдніх фундушаў даходы ад трэцяй карчмы. У тым жа 1514 годзе Жыгімонт Стары падпісаў фундуш Дрысвяцкаму касцёлу. Храм, акрамя ўсяго іншага, атрымаў чатырох мяшчан дрысвяцкіх, "*и з их домами и с пляцами и с корчмами...*". Уладары корчмаў: Янушак Бій, Матыс Шурла, Каспер Яновіч, Яранім Барушковіч - павінны былі "*особливе с корчом по рублю грошей давати кождый год на воск и на вино до службы Божое...*".

У XVI - XVII стст. колькасць корчмаў у мястэчках была вялікай. Часам лічбы ўражваюць. У 1539 г. у Відзах на 25 двароў налічвалася 15 корчмаў, у 1554 годзе ў Браславе існавала 40 корчмаў на 120 двароў, у 1622 годзе у Дрысвятах - 25 корчмаў на 52 двары, у 1643 годзе ў Друі каля 100 корчмаў на 300 двароў. Наведвальнікамі корчмаў былі пераважна сяляне з навакольных вёсак, якія прыязджалі ў мястэчкі на набажэнствы ў храмы, а таксама па іншых патрэбах. Аднак корчмы былі не толькі месцамі, дзе можна было выпіць ды закусіць. Вельмі часта яны з'яўляліся своеасаблівымі клубамі. Тут абмяркоўваліся важнейшыя падзеі, тут дзяліліся навінамі, часта вырашаліся пэўныя пытанні. Што да напояў, то гандаль імі прыносіў, відаць, значны прыбытак.

Недарэмна ў гаспадарцы Віленскага біскупства, да якой адносіліся і Відзы з наваколлем, у 1539 годзе, карчмары складалі больш паловы мяшчанскага насельніцтва.

З XVII стагоддзя колькасць корчмаў стала рэзка змяншацца. Гэта звязана з тым, што ўладары ці дзяржаўцы мястэчак, вялікіх гаспадарскіх комплексаў, сталі аддаваць перавагу спецыялізаваным корчмам, здаваць іх у арэнду. Арандатарамі значнай колькасці корчмаў сталі яўрэі, якім удавалася забяспечыць лепшы прыбытак. Для корчмаў сталі ўзводзіцца спецыяльныя будынкі на найбольш выгадных, ажыўленых месцах: пры гандлёвых плошчах, уездах у мястэчкі, каля мастоў, перавозаў, каля гасцінцаў, на перакрыжаваннях. Зрэдку самыя багатыя корчмы былі муравнымі - пераважна ж



**У дарозе. XVII стагоддзе**

драўляныя збудаванні, якія нагадвалі сялянскія сялібы. Існавалі і зусім невялікія корчмы - шынкі (пітныя дамы). Акрэсліліся два тыпы корчмаў: з заездам і без заезду. Корчмы з заездам (заезны двор ці дом) акрамя асноўнага будынка мелі цэлы набор гаспадарчых пабудоў. Сярод іх вылучаліся стайня, а таксама вазоўня, каб ставіць транспартны сродак. Былі таксама і іншыя гаспадарчыя пабудовы: дравярня, хляўчукі, студня. Асобныя памяшканні адводзіліся пад бровар - для вырабу напояў і саладзільню - для вырабу піва. Тэрыторыя карчомнай сялібы абносілася плотам з адной ці некалькімі брамамі. У асноўнай карчомнай хаце звычайна мелася вялікая зала з грубкай ці камінам, печчу для прыгатавання ежы, доўгім сталом і лавамі. У карчме з заездам частку хаты займалі гасцінныя пакоі з самай прымітыўнай абстаноўкай. Як кажуць, - абы пераначаваць. Найбольш заможныя корчмы з заездам называліся на замежны лад аўстэрыямі (ад італьянскага osteria). Часта гэта назва ўжывалася толькі дзеля прэстыжу.

Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: braslavmc@vitebsk.unibel.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»